# Голас Радзімы

№ 5 (1991)
29 студзеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**У першыя дні студзеня ў друку з'явіліся імёны новых лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР за 1986-ты год у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры. Першай сярод іх пазначана беларуская паэтэса Яўгенія Янішчыц. За зборнік вершаў «Пара любові і жалю» яна ўдастоена прэміі імя Янкі Купалы.**

**Наш фотакарэспандэнт С. КРЫЦКІ сустрэўся з Яўгеніяй Іосіфаўнай. Яго фотарэпартаж мы прапануем чытачам «Голасу Радзімы» на 7-й старонцы газеты.**

**НА ЗДЫМКУ: паэтэса Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.**

# ПАСЛАННЕ
## ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ЦК КПСС
# М. С. ГАРБАЧОВА
### ЛІДЭРАМ АРГЕНЦІНЫ, ГРЭЦЫІ, ІНДЫІ, МЕКСІКІ, ШВЕЦЫІ І ТАНЗАНІІ Ў СУВЯЗІ З ПРЫНЯТАЙ ІМІ ДЭКЛАРАЦЫЯЙ З ВЫПАДКУ АДЫХОДЗЯЧАГА 1986 ГОДА

**Пану Раулю АЛЬФАНСІНУ, Прэзідэнту Аргенціны**
**Пану Андрэасу ПАПАНДРЭУ, Прэм'ер-Міністру Грэцыі**
**Пану Раджыву ГАНДЗІ, Прэм'ер-Міністру Індыі**
**Пану Інгвару КАРЛСАНУ, Прэм'ер-Міністру Швецыі**
**Пану Мігелю дэ ла МАДРЫДУ, Прэзідэнту Мексікі**
**Пану Джуліусу НЬЕРЭРЭ, Першаму прэзідэнту Танзаніі**

Паважаныя панове!

Уважліва азнаёміўся з прынятай вамі дэкларацыяй, у якой вы зноў рашуча выказваецеся за неадкладную распрацоўку канкрэтных мер па прадухіленню гонкі ўзбраенняў у касмічнай прасторы і спыненню яе на Зямлі, якія вядуць у канчатковым выніку да поўнай ліквідацыі ядзернай зброі на нашай планеце. Яшчэ раз з задавальненнем пераканаўся ў тым, што нашы падыходы да прынцыповых пытанняў спынення гонкі ўзбраенняў, якія хвалююць сёння ўсё чалавецтва, па сутнасці супадаюць.

Перш за ўсё поўнасцю згодзен з тым, што нам разам неабходна захаваць тыя гістарычныя рубяжы на шляху да бяз'ядзернага свету, якія былі дасягнуты на савецка-амерыканскай сустрэчы ў Рэйк'явіку, не даць размыць тыя канкрэтныя арыенціры ядзернага раззбраення, якія былі там намечаны. З тым каб збаўленне свету ад ядзернай зброі яшчэ да канца цяперашняга стагоддзя не засталося нязбытнай марай, важна ўжо цяпер, не адкладваючы справы на доўгі час, сканцэнтравацца іменна на праблеме ліквідацыі ядзернай зброі, а не на распрацоўцы, як вы правільна адзначылі, усялякіх праграм, заснаваных на прадпасылцы, што гэта страшная зброя будзе бясконца доўга пагражаць гібеллю нашай планеце.

Савецкі Саюз — і ў гэтым я магу вас цвёрда запэўніць — будзе рашуча змагацца і далей за рух наперад з тых пазіцый, якія былі дасягнуты ў Рэйк'явіку. Мы не здымаем ні адну з унесеных намі там прапаноў, накіраваных на рэзкае скарачэнне і далейшую ліквідацыю ўсіх ядзерных сродкаў, на забеспячэнне мірнага космасу над нашай планетай.

Апіраючыся на ўнесеную намі 15 студзеня 1986 года праграму вызвалення свету ад ядзернага грузу, мы прапануем смелыя і разам з тым рэалістычныя падыходы да згортвання гонкі ўзбраенняў на ўсіх яе напрамках: няхай гэта будзе ліквідацыя ядзерных арсеналаў, недапушчэнне стварэння касмічных узбраенняў, забарона хімічнай зброі або паніжэнне процістаяння ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў у Еўропе.

Нашы шырокамаштабныя прапановы па ўсіх гэтых праблемах з'яўляюцца дабротным будаўнічым матэрыялам, з якога ўжо ў бліжэйшае дзесяцігоддзе можна было б узвесці трывалы будынак надзейнай бяспекі для ўсіх. На жаль, аднак, другі бок пакуль не дэманструе аналагічнай палітычнай адказнасці за лёс свету і не праяўляе жадання ўдзельнічаць з намі ў такім будаўніцтве. Больш таго, робяцца спробы разбурыць нават той фундамент, які закладваўся пад гэта будаўніцтва на працягу апошніх 15 гадоў. У сувязі з гэтым мы поўнасцю падзяляем вашу занепакоенасць магчымасцю ломкі ўсёй структуры дагаворанасцей па абмежаванню стратэгічных узбраенняў, якая магла б мець непрадказальныя вынікі для ўсяго свету. Магу вас у той жа час запэўніць, што безадказнаму курсу цяперашняй адміністрацыі ЗША і ў гэтым, і ў іншых пытаннях Савецкі Саюз мае намер і далей паслядоўна і рашуча процістаўляць лінію на раззбраенне і стварэнне ўсеабдымнай бяспекі.

Мы разумеем той жаль, з якім вы ўспрынялі наша вымушанае рашэнне аб прадаўжэнні савецкага аднабаковага мараторыя на ядзерныя выбухі толькі да першага ядзернага выпрабавання ЗША ў 1987 годзе. Вядома, калі б у Вашынгтоне ўзяў верх рэалістычны падыход і ЗША далучыліся да нашай аднабаковай акцыі, справа ядзернага раззбраення магла б рушыць наперад сямімільнымі крокамі. Але гэтага, нягледзячы на тое, што мы прадаставілі амерыканцам на роздумы цэлых паўтара года, на жаль, пакуль не адбылося. У той жа час хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што мы і цяпер пакідаем дзверы адкрытымі: у любы дзень і месяц мы будзем гатовы зноў вярнуцца да мараторыя, калі ЗША прымуць рашэнне спыніць свае ядзерныя выбухі. Нягледзячы ні на што, мы не страчваем надзеі, што амерыканскі бок усё-такі прыслухаецца да заклікаў сусветнага супольніцтва, у тым ліку выказаных у вашых дэкларацыях, і перагледзіць свае адносіны да гэтай праблемы.

Хачу пацвердзіць нашы прынцыповыя адносіны да задачы забароны ядзерных выпрабаванняў у цэлым. Мы па-ранейшаму разглядаем поўную забарону выпрабаванняў ядзернай зброі ў якасці першачарговай меры на шляху да згортвання ядзерных узбраенняў і іх далейшай ліквідацыі. СССР прапануе вырашаць гэта пытанне неадкладна. І калі нават нас прымусяць аднавіць ядзерныя выбухі, мы будзем гэтак жа настойліва выступаць за пачатак поўнамаштабных перагавораў па гэтай праблеме, якія мы гатовы весці ў любым саставе і на любым форуме, але, зразумела, з удзелам ЗША.

Імкнучыся не ўпусціць ніводнага шанцу для актывізацыі міжнародных намаганняў у гэтай галіне, Савецкі Саюз ужо выказваў сваю гатоўнасць выкарыстаць прапанову, якая была зноў пацверджана ў вашай апошняй дэкларацыі, аб аказанні дапамогі ў кантролі за спыненнем ядзерных выбухаў. На жаль, з-за пазіцыі ў гэтым пытанні ЗША прапанаваная вамі сустрэча экспертаў шасці краін з савецкімі і амерыканскімі экспертамі так і не адбылася. Мы, аднак, па-ранейшаму лічым, што яна магла б быць вельмі карыснай для паскарэння распрацоўкі дагавора аб забароне ядзерных выпрабаванняў. У гэтай сувязі хачу вас праінфармаваць, што калі нават ЗША не перагледзяць сваіх негатыўных адносін да вашай прапановы, мы тым не менш былі б гатовы накіраваць на сустрэчу з вашымі экспертамі савецкіх прадстаўнікоў. На такой сустрэчы з улікам усіх новых прапаноў, унесеных у апошні час у галіне кантролю, можна было б ужо цяпер заняцца сумесным прадметным пошукам узаемапрымальных рашэнняў, якія маглі б затым легчы ў аснову надзейнага кантрольнага механізма дагавора аб поўнай і ўсеагульнай забароне выпрабаванняў ядзернай зброі.

У заключэнне хачу выказаць думку, якая, як мне здаецца, пераклікаецца з духам вашай дэкларацыі. Тое, аб чым удалося дагаварыцца ў Рэйк'явіку, падыход да ліквідацыі ядзерных узбраенняў, які намеціўся там, ужо не можа быць прадметам толькі адносін паміж СССР і ЗША: цяпер вынікі Рэйк'явіка сталі агульным здабыткам усіх краін і народаў. І гэта зразумела — бо ўзаемазалежнасць іх выжывання, якая стала рэальнасцю нашага ядзерна-касмічнага веку, робіць усе дзяржавы жыццёва зацікаўленымі ў тым, каб ядзерная зброя была ліквідавана і каб гонка ўзбраенняў не перамясцілася ў космас. Сёння такое ўзаемадзеянне дзяржаў, вялікіх і малых, у імя захавання ўсяго чалавецтва стала, як ніколі раней, жыццёвай неабходнасцю. Вітаючы нястомныя намаганні на гэтым напрамку «дэлійскай шасцёркі», хачу вас запэўніць, што і Савецкі Саюз гатоў са свайго боку ўносіць самы актыўны ўклад у гэту агульную справу.

З павагай
М. ГАРБАЧОЎ.

ВІЗІТЫ

## ПЕРАД АД'ЕЗДАМ НА РАДЗІМУ

**Генеральны консул Польскай Народнай Рэспублікі ў Мінску Я. Рачкоўскі нанёс візіты кіраўнікам БССР у сувязі з завяршэннем яго работы і маючым адбыцца ад'ездам на радзіму.**

**Генеральнага консула прыняў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. Слюнькоў. Адбылася гутарка, якая прайшла ў цёплай, дружалюбнай абстаноўцы.**

**Напярэдадні Я. Рачкоўскі быў прыняты Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевічам і першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі У. Еўтухам.**

**З нагоды ад'езду на радзіму генеральны консул наладзіў прыём, на якім прысутнічалі міністры, кіраўнікі ведамстваў, прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, военачальнікі, актывісты Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы.**

**На прыёме быў таксама генеральны консул Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Мінску В. Янда.**

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ІНДЫІ

**Індыйскі народ і сёння жыве ўражаннямі ад візіту ў краіну Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, сказаў у інтэрв'ю журналістам член парламента і Палітычнага савета Рабочага камітэта партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс, член нацыянальнага камітэта Таварыства сяброў Савецкага Саюза Дарбара Сінгх. Дэлегацыя гэтага таварыства прыбыла ў СССР па запрашэнню Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Два дні госці знаходзіліся ў Мінску, дзе прынялі ўдзел у мерапрыемствах традыцыйнай Дэкады савецка-індыйскай дружбы.**

**Дэлегацыю з Індыі прыняў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч. Госці наведалі Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, выканком Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, сустрэліся са сваімі суайчыннікамі — студэнтамі, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах горада.**

**Члены дэлегацыі пабывалі ў Беларускім навукова-вытворчым аб'яднанні парашковай металургіі, супрацоўнікі якога вядуць сумесныя даследаванні з індыйскімі калегамі, азнаёміліся з экспазіцыяй Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь». У мінскім кінатэатры «Мір» госці прынялі ўдзел у адкрыцці Тыдня мастацкіх фільмаў дружалюбнай краіны, прымеркаванага да Дэкады савецка-індыйскай дружбы.**

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## НОВЫ КІНАТЭАТР У ГРОДНЕ

**У кінатэатры, які адкрыўся ў занёманскай частцы Гродна, тры камфартабельныя залы, разлічаныя больш чым на тысячу месцаў. У выставачнай галерэі разгорнута экспазіцыя работ мясцовых мастакоў. У прасторным фае з дэкаратыўным басейнам будзе зроблены куток жывой прыроды.**

**Кінатэатр, які атрымаў назву «Кастрычнік», сёмы ў абласным цэнтры. Ён увайшоў у створаны ў раёне культурна-спартыўны комплекс, які ўключае таксама Палац культуры хімікаў, заводскія клубы, музычную школу, некалькі бібліятэк, відэатэку, крытую спартыўную залу аўтакамбіната, стадыёны прадпрыемстваў.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## СІМПОЗІУМ ДАЦКІХ ФІРМ



**Сімпозіум дацкіх фірм, які праводзіцца ў рамках міжурадавага пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне аграпрамысловага комплексу, адбыўся ў Мінску. Вядучыя спецыялісты-аграрнікі, работнікі харчовай і перапрацоўчай прамысловасці рэспублікі пазнаёміліся з найноўшымі тэхналогіямі перапрацоўкі мяса і малака, утылізацыі адходаў, з распрацоўкай па халадзільнаму і ўпаковачнаму абсталяванню, з развіццём жывёлагадоўлі ў Даніі.**

**У кастрычніку мінулага года нашы краіны заключылі міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне аграпрамысловага комплексу. Створана рабочая група, задача якой — вывучыць магчымасці ўключэння дацкай тэхналогіі і дацкага абсталявання ў ажыццяўленне Харчовай праграмы СССР.**

**Дзяржаграпрам мае ўжо трывалыя кантакты з дацкімі фірмамі і прадпрыемствамі. Дацкія тэхналогіі і абсталяванне паспяхова выкарыстоўваюцца на Віцебскім малочным камбінаце, на малочных заводах у Магілёве і Мінску. Нядаўна ўведзены ў эксплуатацыю сыраробны камбінат у Бярозе. У яго будаўніцтве і аснашчэнні абсталяваннем для ультрафільтрацыі малочнай сыроваткі прымалі ўдзел дацкія прадпрыемствы.**

НА ЗДЫМКУ: у час сімпозіума.

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

**Надрукаваная ў мінулым годзе анкета «Захаванне міру — наш агульны клопат» была з цікавасцю ўспрынята нашымі чытачамі. На працягу некалькіх месяцаў мы змяшчалі ў «Голасе Радзімы» адказы на яе. Пісьмы суайчыннікаў, як чакалася, выклікалі новыя: пытанне, як захаваць мір у свеце, зараз турбуе і непакоіць усіх. Мы працягваем друкаваць гэтыя пісьмы.**

Аўстралія імкнецца да трывалага міру ў зоне Ціхага акіяна. Настаў час рашуча заявіць палітыкам Белага дома, што наша краіна не жадае мець на сваёй тэрыторыі ваенных баз (іх больш за 30), якія належаць ЗША і кантралююцца імі. Вельмі непажадана і наведванне аўстралійскіх портаў амерыканскімі ваеннымі суднамі, асабліва тымі, якія маюць ядзерную зброю на борце, а амерыканская адміністрацыя нават не лічыць патрэбным інфармаваць нас аб гэтым. Такім чынам, у выпадку ўзнікнення ваеннага канфлікту Аўстралія можа стаць ядзерным закладнікам ЗША.

Большасць аўстралійцаў перакanана, што ваенныя базы ў Аўстраліі з'яўляюцца састаўной часткай палітыкі «зорных войнаў». Прагрэсіўныя колы грамадскасці нашай краіны настроены супраць палітычных авантурыстаў ЗША, якія вядуць небяспечную гульню, што пагражае перарасці ў ядзерную катастрофу. Пачатая Пентагонам гонка ўзбраенняў базіруецца на бессэнсоўных надзеях авалодаць усім светам. Заправілы ваенна-прамысловага комплексу ЗША з дапамогай фінансуемых імі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды распальваюць на Захадзе нянавісць да Савецкага Саюза, да краін сацыялістычнай садружнасці. Аднак амерыканскія «ястрабы» не карыстаюцца папулярнасцю сярод рабочага класа Аўстраліі.

У нас добра ведаюць, што савецкія мірныя ініцыятывы ставяць мэтай не канфрантацыю, а раззбраенне, супрацоўніцтва, узаемаразуменне і мірнае суіснаванне паміж краінамі з розным грамадскім ладам. Нам вядома, што СССР усяляк падтрымлівае аб'яўленне паўднёвай часткі Ціхага акіяна раёнам, свабодным ад ядзернай зброі, падтрымлівае дэмілітарызацыю ўсяго рэгіёна. Як і трэба было чакаць, прапагандысцкая машына Злучаных Штатаў накіроўвае свае намаганні на тое, каб ачарніць мірныя прапановы Савецкага Саюза, сказіць іх сэнс. Але аўстралійскі рабочы клас хоча бачыць будучыню сваёй краіны мірнай і таму рашуча выступае супраць размяшчэння ваенных баз ЗША на тэрыторыі краіны.

**Гары ТОМСАН-ТРАБІЦКІ.**
Аўстралія.

Пасля кровапралітнай вайны супраць германскага фашызму ўсе сумленныя людзі думалі, што гэта была апошняя вайна не толькі для тых народаў, якія змагаліся з ім, але і для многіх будучых пакаленняў на ўсе часы. Аднак людзі добрай волі памыліліся. Яны не ўлічылі той факт, што за мір трэба змагацца, таму што фашысты не зніклі — яны толькі схавалі пад дэмакратычнае адзенне сваю сутнасць, а свастыку — у кішэню. І цяпер яны запасаюцца зброяй вялікай разбуральнай [illegible] якой раней ніколі не [illegible]навала. Для каго? І для чаго? Магчыма для нашых дарагіх братоў і сясцёр на Радзіме, якія пасля таго, як зніш[illegible] фашызм у 1941—[illegible] гадах, паспяхова будуюць шчаслівае грамадства, якое на ўсіх мовах свету называецца камунізм. Бясспрэчна, гэта так. Але калі раней адна краіна магла ваяваць з другой, а астатнія заставаліся ў баку, то сёння ядзерная вайна пагражае знішчэннем усяму чалавецтву. Таму тыя, хто хоча развязаць яе, павінны зразумець, што і ім не застацца ў жывых. Усе разумныя людзі планеты павінны аб'яднаць свае намаганні, каб спыніць гэтых вар'ятаў.

**Рыгор МАРТЫНЮК.**
Канада.



**Зімой у лесе.** **Фота І. ПАЎЛАВА.**

МАЙ 1925 года. Зала VII Усебеларускага з'езда Саветаў. З боку прэзідыума да трыбуны цвёрдай хадой накіроўваецца спраўны, каржакаваты чалавек. Ён хутка заваёўвае ўвагу прысутных. Праз 3—4 мінуты слухачы ўжо ўяўляюць рэспубліку, якая ўзнялася з руін грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвенцыі. Прамоўца гаворыць аб цяжкасцях эканамічных і сацыяльных — аб беспрацоўных у гарадах і вёсках, аб недастатковай заработнай плаце настаўнікам, аб задачах у нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве БССР. Такім паўстаў у той памятны веснавы дзень перад дэлегатамі з'езда старшыня Савета Народных Камісараў Беларускай ССР Іосіф Адамовіч.

## НА ЎСІХ ПАСАДАХ ЯГО ВЫЗНАЧАЛА АДДАНАСЦЬ САЦЫЯЛІЗМУ

# ЖЫЦЦЁ ДЛЯ НАРОДА



Ён нарадзіўся ў студзені 1897 года ў Барысаве. Акрамя Іосіфа Аляксандравіча ў гэтай вялікай, дружнай рабочай сям'і раслі яшчэ шасцёра дзяцей. У 12 гадоў ён скончыў царкоўнапрыходскую школу і стаў працаваць на новабарысаўскай глінянапосуднай фабрыцы. Вядома, што на фарміраванне палітычных поглядаў І. Адамовіча ў раннім юнацтве вялікі ўплыў аказаў яго бацька, Аляксандр Іванавіч, які за ўдзел у рэвалюцыі 1905 года некаторы час жыў пад наглядам паліцыі. Як магла, ахоўвала дзяцей ад жыццёвых нягод маці — Ганна Рыгораўна, але яна, на жаль, рана памерла.

Вялікім выпрабаваннем маральных сіл для Іосіфа Адамовіча з'явілася першая сусветная вайна. Атрымаўшы пасля курсу ваеннай падрыхтоўкі ў Царскім Сяле чын малодшага унтэр-афіцэра, ён трапляе на Паўднёва-Заходні фронт. Скупыя радкі яго салдацкіх пісьмаў. Але і ў іх нямала таго, што выкрывае імперыялістычны, бессэнсоўны для народа характар вайны. У той жа час за праяўленыя ў баях смеласць і мужнасць яго ўзнагародзілі трыма георгіеўскімі крыжамі.

Сацыялістычная рэвалюцыя ўварвалася ў жыццё Адамовіча як з'ява заканамерная і доўгачаканая. Ён шчыра вітаў дэмакратызацыю армейскага быту, устанаўленне рабочага кантролю над вытворчасцю. Ён не раз падкрэсліваў, што толькі змена формы ўласнасці вырашыць пытанне аб уздыме эканомікі, росквіце нацыянальных культур, сацыяльна-класавых адносін. Усё гэта робіць зразумелым, чаму Іосіф Адамовіч у пачатку 1918 года ўступіў у рады бальшавіцкай партыі.

Цікавы выпадак адбыўся з ім вясной 1918 года ў Смаленску. Старадаўні рускі горад наваднілі салдаты і афіцэры былой царскай арміі. Многім з іх хацелася б павярнуць кола гісторыі назад. Прычыны для незадаволенасці таксама існавалі. Тут і перабоі ў забеспячэнні прадуктамі харчавання, і адсутнасць усякага графіка ў руху чыгуначнага транспарта, і вельмі дрэнная работа ўстаноў сувязі, банкаў і г. д. Скарыстаўшы такія абставіны, контррэвалюцыйна настроеныя афіцэры сабралі на мітынг вялікую колькасць ваенных. Але ператварыць яго ў антысавецкі путч ім перашкодзіў старшына 1-й Смаленскай батарэі І. Адамовіч. Прабраўшыся да месца выступлення зачыншчыкаў, ён гучна ад імя Савецкай улады і яе ўзброеных сіл запатрабаваў арыштаваць контррэвалюцыянераў. Цяжка сказаць, што адыграла галоўную ролю: ці грозны выгляд Адамовіча, ці ўпамінанне ім рабоча-сялянскай улады. Але бунтаўшчыкі пацярпелі паражэнне. Бясспрэчна, што не апошнюю ролю адыграла і рэвалюцыйная перакананасць І. Адамовіча, яго гатоўнасць нават ахвяраваць жыццём дзеля высокай мэты.

Дастаткова ўзяць папулярны падручнік па гісторыі Беларусі першых год Савецкай улады, каб пераканацца, як многа значылі для беларускага народа ўтварэнне БССР, яе другое абвяшчэнне летам 1920 года, пераход ад вайны да міру. III з'езд Кампартыі Беларусі, які адбыўся ў лістападзе 1920 года, адзначыў: «Асаблівасці палітычнага становішча Беларусі як заходняй ускраіны Савецкай Расіі, якая з'яўляецца буферам паміж ёю і шляхецкай Польшчай, заключаюцца перш за ўсё ў моцным імкненні кіруючых польскіх колаў авалодаць гэтым буферам, гэта значыць злучыць белую і чырвоную Беларусь з мэтай яе буржуазнага самавызначэння ў бок саюза з Польшчай».

Старонкі тых жа кніг утрымліваюць інфармацыю аб паспяховай ліквідацыі цяжкасцей. З-за малога аб'ёму некаторых кніг прозвішча Адамовіча не ўпамінаецца. Але сам ён цесна быў звязаны з усімі галоўнымі падзеямі гэтага перыяду. Як дэлегат VI Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі І. Адамовіч горача падтрым[illegible] рашэнне аб абвяшчэнні [illegible]арусі рэспублікай, прызна[illegible] права беларусаў на сваё дзяржаўнае самавызначэнне. Ён разам з А. Чарвяковым і В. Кнорыным уваходзіў у Мінскую губернскую тройку, якая заклала першыя цаглінкі ў аднаўлен[illegible]інска пасля яго вызвалення [illegible]1920 годзе ад войск памешчыцка-буржуазнай Польшчы.

Усё пачалося яшчэ з ліпеня 1920 года, з моманту, калі І. Адамовіч увайшоў у склад Белрэўкома. Яго тады можна было часта бачыць са стосам кніг, з якіх ён чэрпаў веды па розных пытаннях кіравання грамадскімі адносінамі, у тым ліку і нацыянальна-дзяржаўнымі. Усё гэта спатрэбілася ў студзені 1921 года, калі ўрад рэспублікі і Цэнтральнае Бюро Кампартыі Беларусі даручылі яму, намесніку старшыні ЦВК і СНК БССР, прыняць удзел у распрацоўцы і падпісанні рабоча-сялянскага дагавора з РСФСР. Такі дакумент, які адлюстроўвае інтарэсы дзвюх рэспублік і стварае новыя ўмовы для ўзаемаўзбагачаючага супрацоўніцтва, быў створаны. Ён унёс важкую лепту ў аб'яднальны рух савецкіх народаў за стварэнне многанацыянальнай савецкай дзяржавы, утварэнне СССР. Дагавор быў падпісаны ў Маскве 16 студзеня 1921 года.

Неспакойным аказалася лета 1921 года. Іосіф Аляксандравіч узначаліў у тыя дні барацьбу з бандамі, якія засылаліся варожым капіталістычным акружэннем. Контррэвалюцыянеры забівалі савецкіх актывістаў, падпальвалі дамы камунараў, распаўсюджвалі паклёпніцкія чуткі аб рабоча-сялянскай уладзе. Барацьба з тэрарызмам магла быць паспяховай толькі пры надзейнай дапамозе з боку мясцовага насельніцтва. Добра ўсведамляў гэта Адамовіч. Многа сіл аддаваў ён раскрыццю праўды аб тых, хто агнём і мячом хацеў адвярнуць працоўны народ ад Савецкай улады. У газеце «Звязда» выходзіць серыя яго артыкулаў па гэтаму пытанню. Сам ён не адзін раз удзельнічаў у баявых аперацыях. Ужо к пачатку 1922 года з бандамі было ў асноўным скончана.

Незвычайныя арганізатарскія здольнасці І. Адамовіча асабліва ярка праявіліся ў такі знамянальны для Беларускай ССР перыяд, як яе тэрытарыяльнае ўзбуйненне. Вядома, што пасля заканчэння грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвенцыі частка раёнаў з пераважна беларускім насельніцтвам аказалася ў складзе РСФСР і УССР. І. Адамовіч аб'ехаў разам з іншымі членамі ўрада ўсе далучаныя да БССР населеныя пункты. У адным з дакументаў таго часу гаворыцца, што перакананасць і шчырасць выступленняў І. Адамовіча перад працоўнымі, яго абаяльнасць, бальшавіцкі характар мелі вялікае значэнне для станоўчага ўздзеяння на тых работнікаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў, якія «стараліся затармазіць узбуйненне рэспублікі».

У цэлым жа вестка аб расшырэнні межаў БССР была радасна сустрэта працоўнымі. Вынікі праведзенай работы зацвердзіў VI Надзвычайны Усебеларускі з'езд Саветаў, які адбыўся ў сакавіку 1924 года. У яго звароце падкрэсліваецца: «Аб'яднаннем пад сцягам Савецкай Беларусі ўсіх тэрыторый з большасцю беларускага насельніцтва Савецкая ўлада яшчэ раз паказвае ўсяму свету, як лёгка і свабодна ў брацкім саюзе рэспублік рабочых і сялян вырашаюцца самыя складаныя пытанні дзяржаўнага будаўніцтва». У ходзе зробленага ў 1921 годзе тэрыторыя і насельніцтва БССР павялічыліся амаль удвая. Адбыліся змяненні ў кіраўніцтве рэспублікі. Іосіф Адамовіч быў назначаны старшынёй Савета Народных Камісараў.

На чале ўрада ён прабыў да 1927 года. Здаецца, не так ужо многа гадоў. Але колькі цікавых пачынанняў увайшлі ў той час у розныя сферы грамадскага жыцця. Пры ім рэспубліка дасягнула зайздросных здзяйсненняў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культурных пераўтварэннях. Было пабудавана 106 новых прадпрыемстваў. Адбыўся першы выпуск студэнтаў Белдзяржуніверсітэта. Выдатнай заваёвай з'явілася стварэнне беларускага нацыянальнага друку.

Хто заходзіў у тыя дні ў яго кватэру, здзіўляўся багаццю разнастайных кніг. Тут былі і навуковыя выданні па палітычнай эканоміі, філасофіі, гісторыі, і зборнікі вершаў, і проза. Іосіф Аляксандравіч падтрымліваў цесныя сяброўскія сувязі з Д. Жылуновічам, Я. Купалам, Я. Коласам і іншымі беларускімі пісьменнікамі. Аўтографы на кнігах сведчылі і аб блізкіх адносінах з Уладзімірам Маякоўскім і Лідзіяй Сейфулінай.

І. Адамовіч нямала папрацаваў (у асноўным на гаспадарчых пасадах) і за межамі рэспублікі. Усюды яго вызначалі любоў да людзей, высокая самаахвярнасць, адданасць сацыялізму. Ён выйшаў з народа і заўсёды адстойваў інтарэсы народа. І беларусы плацяць свайму сыну ўдзячнай памяццю.

**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## РОДИНУ НЕЛЬЗЯ МЕРИТЬ УРОВНЕМ БЛАГОСОСТОЯНИЯ

# ПОЧЕМУ ВОЗВРАЩАЮТСЯ «БЫВШИЕ»

Они возвращались и раньше. Но их было немного. Сейчас картина изменилась. За последние несколько недель не было такого рейса Аэрофлота Нью-Йорк — Москва, среди пассажиров которого не оказалось бы нескольких бывших советских граждан, решивших вернуться на постоянное жительство в СССР. Они прилетают и другими рейсами, приезжают и в поездах, например Вена — Москва. Иногда возвращаются поодиночке, иногда целыми семьями. А за два дня до Нового года самолет Ил-86 доставил из Нью-Йорка в московский международный аэропорт «Шереметьево-2» сразу 52 «бывших».

Это название прочно пристало к проживающим сейчас на Западе выходцам из СССР после недавнего показа по советскому телевидению американского фильма «Русские здесь». Кстати сказать, этот фильм вызвал в нашей стране множество споров. Скрещивались противоречивые мнения. Во всяком случае, мало кто остался равнодушным. Особенно сейчас, когда начиная с ноября прошлого года «бывшие» возвращаются в СССР большими партиями.

Лет пятнадцать назад, в начале семидесятых годов, в СССР резко возросло число лиц еврейской национальности, желающих выехать на постоянное жительство в Израиль. Многие из них, как выяснилось позже, до «земли предков» так и не доехали, а почему-то оказались в Вене, Риме, а затем в Нью-Йорке. Вскоре к «недоехавшим» примкнула большая группа тех, кто первоначально выехал в Израиль, но очень быстро разобрался, что собой представляет для выходцев из СССР жизнь в этой стране. А вскоре в посольства СССР в различных столицах пошли толпы «бывших» с одной просьбой: разрешите вернуться обратно, нас обманули.

— Что произошло? Чем объяснить эту волну возвращенцев? — С этим вопросом я обратился к доктору юридических наук Самуилу Зивсу, заместителю председателя Антисионистского комитета советской общественности.

— Сионистская пропаганда, — рассказывает он, — в начале семидесятых годов повела настоящее массированное наступление на умы советских евреев. Рисовались картины «райской жизни» на Западе, где в отличие от СССР «умный и предприимчивый человек может отлично преуспеть».

И вот «рай» обернулся настоящим адом. Родившиеся и выросшие в СССР люди не могли адаптироваться ни в Израиле, ни в западных странах.

— Я сравниваю свое решение о выезде из СССР в США, — сказал мне бывший режиссер советской киностудии «Мосфильм» Рашид Атамалибеков, восемь лет проживший в США, — с поступком микробиолога, решившего на себе испытать опасные препараты. Как человек, родившийся и выросший в социалистическом обществе, я был просто не в состоянии жить в Соединенных Штатах...

— Счастлив, что американский период моей жизни закончился, — вторит ему Юрий Чаповский, уехавший в США в 1978 году из Киева. — Испытываю огромное чувство облегчения и хочу принести посильную пользу СССР, — стране, которая, как я убедился, является моим единственным домом...

«Бывшие» возвращаются в СССР. Причем это возвращение симптоматично. Западной пропаганде необходимо дать какое-то объяснение происходящему. С чего это вдруг? Как могут люди покидать «край изобилия и неограниченных возможностей» и возвращаться туда, где «постоянно нарушаются права человека и отсутствуют самые необходимые для жизни товары»? Как могут советские власти пустить их обратно? Эти вопросы для многих на Западе необъяснимы. Они противоречат всем антисоветским аргументам, которые на протяжении многих десятилетий внушали им телевидение, радио, печать.

Первый вариант объяснения прост: «Москва набирает пропагандистские очки». Так, например, пыталась объяснить происходящее издающаяся в США антисоветская эмигрантская газета «Новое русское слово». Есть и другие варианты. Возвращающихся на Родину людей пытаются представить как субъектов с отсутствием хватки в делах, с пристрастием к «Смирновской» водке и так далее.

Те, с кем мне удалось переговорить в «Шереметьево-2», не производят впечатление людей отсталых. Наоборот, это думающие люди. Юрий Чаповский, например, закончил университет в Атланте, имел все возможности получить хорошо оплачиваемую и престижную работу, но решил вернуться в СССР.

Все объясняется намного проще: нет ничего дороже Родины! Эту истину люди наиболее отчетливо начинают понимать, оказавшись на чужбине. Именно там они осознали и прочувствовали: привязанность к родной стране для человека так же естественна, как у детей — любовь к родителям.

— Эти люди были обмануты, — продолжает С. Зивс. — И обманула их сионистская пропаганда. Многим евреям эта пропаганда искалечила жизнь. И то, что они возвращаются сегодня домой, — проявление гуманности со стороны Советского правительства. Их возвращение отражает изменения во внутренней и внешней политике СССР после XXVII съезда КПСС, отражает новые подходы к решению вопросов, новое мышление.

— В свое время все «бывшие» добровольно отказались от советского гражданства. Некоторым удалось получить американские паспорта. Как будет решаться этот вопрос? Где будут жить вернувшиеся люди? — спрашиваю я.

— Они подают заявления в Президиум Верховного Совета СССР с просьбой вернуть им советское гражданство. Часть этих просьб уже удовлетворена. Часть рассматривается. Большинство возвратившихся будут жить у родственников. Некоторым, кому жить просто негде, будет предоставлена возможность вступить в жилищно-строительный кооператив.

Но пусть у читателя не возникнет чрезмерно розовая картина встречи бывших соотечественников в СССР. Никаких слез умиления. Слышатся и голоса против, считающие, что не следует возвращать советское гражданство людям, от него отказавшимся. И все-таки в основном перед лицом человеческих трагедий к ситуации относятся с пониманием. Здесь срабатывает принцип, с детства воспитанный в советских людях, — нельзя быть равнодушным к чужому несчастью.

Независимо от того, в каких советских городах будут жить вернувшиеся, где они будут работать — на киностудии, в колхозе, на заводе, в мастерской бытового обслуживания или играть в симфоническом оркестре, они не услышат в свой адрес упреков, будут пользоваться всеми правами советского гражданина.

— Я счастлива, что снова оказалась на Родине, — говорит одна из 52 вернувшихся 29 декабря в СССР из США Ревекка Кацап, педагог из Одессы. — Счастлива, что снова получила право называться советской гражданкой. Спасибо Родине, что приняла нас назад.

Мне кажется, эти слова лучше всего объясняют, почему сегодня в СССР возвращаются «бывшие». Вряд ли кто-то сможет спорить с истиной, что Родину нельзя мерить уровнем жизни.

Андрей ПРАВОВ.
(АПН).



Современный жилой район Занёманский в Гродно. Фото А. ТОЛОЧКО.

## НОВОЕ В ЭКОНОМИЧЕСКОЙ ПОЛИТИКЕ СОВЕТСКОГО СОЮЗА

# СОВМЕСТНЫЕ ПРЕДПРИЯТИЯ

**Около 100 фирм Финляндии, ФРГ, Японии, Италии, Франции, Голландии, США, Индии и ряда других стран подали заявки на создание совместных предприятий в Советском Союзе.**

С мая 1983 года на территории СССР разрешено создание совместных с социалистическими странами предприятий и организаций. С января 1987 года это распространяется также на партнеров из западных и развивающихся стран. В Советском Союзе утвержден официальный порядок образования таких предприятий и режим их деятельности.

Предварительно был изучен и учтен позитивный мировой опыт совместного предпринимательства, инвестиционные законы стран — членов СЭВ, а также Югославии и КНР. Кроме того, использовались материалы и рекомендации экономических органов ООН, Международной торговой палаты. По представлении советских специалистов, установленный режим разумно балансирует права и интересы отечественного и зарубежного партнеров, дает совместному предприятию достаточную деловую самостоятельность в рамках законодательства СССР и складывающегося в стране нового хозяйственного механизма.

В частности, инициатива в создании совместных предприятий может исходить как от их потенциальных советских, так и иностранных участников. Ими могут быть предприятия и объединения, а также министерства и ведомства Советского Союза. Переговоры о таких предприятиях ведутся с советской стороны на уровне министерств и ведомств. Их согласованные учредительные документы (договор о создании и устав) регистрируются в Министерстве финансов СССР. После этого предприятие получает права юридического лица, а с ним официально и возможность хозяйственной деятельности на советской территории.

Совместные предприятия могут работать как на замещение импорта, так и на экспорт. Однако, как ожидается, каждое предприятие будет покрывать свои валютные платежи доходами в иностранной валюте. Для этого им предоставляется прямой выход на внешний рынок. Внутри СССР сбыт продукции совместных предприятий и снабжение местными материалами организуется через советские внешнеторговые объединения на договорной основе в рублях и по согласованным ценам с учетом мирового рынка.

Таким предприятиям не устанавливаются обязательные плановые задания, и они сами определяют свою техническую и коммерческую политику и производственные программы. Это делают правление предприятия, состав которого определяется сторонами пропорционально их вкладам в уставный фонд, и дирекция, осуществляющая оперативное управление производством и сбытом, куда также могут входить иностранные руководители. Председателем правления и генеральным директором являются граждане СССР. Обязанности между правлением и дирекцией распределяются самими партнерами.

Основа деятельности предприятия — уставный фонд, не менее 51 процента которого должно принадлежать советскому партнеру. Вместе с тем стороны могут оговорить в договоре те вопросы (например, качества продукции или технической политики), решения по которым принимаются ими только единогласно. Уставный фонд образуется из взносов участников в виде машин, оборудования, технологии, зданий, сооружений, прав на землю и промышленную собственность, а также денежных средств. Земля, вода, недра, леса и другие советские природные ресурсы предоставляются совместным предприятиям в платное пользование. Амортизация исчисляется в порядке, принятом в СССР, однако партнеры могут избрать также ее ускоренные нормы. От таких предприятий ожидается производство только технически совершенной продукции, конкурентоспособной на внешнем рынке.

Иностранному партнеру гарантируется защита его имущества и промышленной собственности, свободный вывоз прибылей в иностранной валюте, освобождение товаров и технологии, ввозимых ими в счет взноса в уставный фонд, от таможенных пошлин. Имущество иностранного партнера не может быть конфисковано или экспроприировано в административном порядке, взыскание на него налагается только судом. В случае возникновения споров партнеры разрешают их по своему выбору: либо в советском суде, либо через арбитраж. Совместное предприятие может пользоваться рублевыми или валютными кредитами Внешторгбанка СССР, а также кредитами иностранных банков и поставщиков. В случае ликвидации предприятия иностранный партнер имеет право на репатриацию своего взноса по его балансовой стоимости.

Налог в бюджет с полученной прибыли предприятие платит в размере 30 процентов. Однако в первые два года деятельности оно освобождается от налогообложения, как и реинвестируемая часть прибыли иностранного партнера. В зависимости от своей финансовой политики предприятие может претендовать также и на другие налоговые льготы.

Естественно, что совместные предприятия и их иностранные партнеры должны соблюдать советское законодательство, в том числе финансовое и социальное. Отчетность должна вестись по советским стандартам и регулярно проверяться специальной аудиторской организацией. Персонал предприятия — советский: из-за рубежа могут приглашаться только отдельные высококвалифицированные специалисты. Дирекция заключает трудовой договор с профсоюзом. Режим и оплата труда регулируются советским законодательством, однако дирекция с согласия профсоюза может вводить дополнительные формы поощрения работников. Условия работы иностранных специалистов определяются заключаемыми с ними контрактами. С их зарплаты взимается подоходный налог, а ее неизрасходованная часть может переводиться в валюте за границу.

Совместное предприятие имеет право вести строительные работы и использовать транспортные коммуникации наравне с советскими организациями, а также пользоваться всеми видами коммерческой связи с заграницей.

Первые отклики на возможность создания совместных предприятий на территории СССР показывают, что наши иностранные партнеры рассматривают предлагаемый режим как разумно-благоприятный. Начатые конкретные переговоры, как ожидается, могут привести к образованию первых совместных предприятий уже в первом квартале 1987 года.

Максим РОЩИН.
(АПН).

## ДЗЕ І ЯК РЫХТУЮЦЬ У СССР БУДУЧЫХ ТВОРЦАЎ

# ЗАПАЛІЦЬ ЗОРКІ НА НЕБАСХІЛЕ МАСТАЦТВА

Кадры для ўстаноў культуры — тэатраў і канцэртных арганізацый, цыркаў, музеяў і бібліятэк — у СССР рыхтуюць 76 вышэйшых навучальных устаноў, больш за 500 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і 8,5 тысячы мастацкіх і музычных школ.

З начальнікам Упраўлення вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў мастацтваў Міністэрства культуры СССР Валерыем МАДЭСТАВЫМ я сустрэлася ў самы гарачы час: толькі што закончыліся экзамены ў балетных вучылішчах, восьвось пачнуцца ў кансерваторыях... Тэлефон няспынна званіў, у прыёмнай тоўпіліся заклапочаныя бацькі...

— Кожны год адно і тое ж — «мора слёз», — уздыхае Валерый Мадэстаў. — Але што рабіць: бацькам заўсёды здаецца, што іх дзеці—абавязкова будучыя Уланавы і Рыхтары. Мы ж, нягледзячы ні на што, павінны быць надзвычай строгімі, патрабавальнымі і аб'ектыўнымі. Бо самае лепшае, што мы можам зрабіць для нашых абітурыентаў—гэта з найбольшай дакладнасцю вызначыць ступень іх таленавітасці, калі такая ёсць увогуле. Праблема адбору для нас самая складаная. Памыліцца тут — гэта не толькі ў будучыні выпусціць дрэннага спецыяліста, але і знявечыць чалавечы лёс, выдаўшы вексель, які потым не пацвердзіцца. Талент — галоўны і адзіны крытэрый пры паступленні ў інстытуты мастацтваў. «Ці таленавіты ты?» — вось у чым пытанне.

— Хто ж бярэ на сябе смеласць дакладна адказаць на яго?

— Гэтае права мы ўручаем прыёмнай камісіі, у састаў якой уваходзяць вядучыя майстры: артысты і рэжысёры, кампазітары і жывапісцы. Ім не пазайздросціш: вылучыць сярод дзвюх ці трох тысяч прэтэндэнтаў дваццацьтрыццаць па-сапраўднаму дастойных — неверагодна складана. Тым больш, што год на год не падобны: адзін паток абітурыентаў багаты сапраўднымі дараваннямі, а другі ў значнай меры складаецца з «выпадковых» людзей, захопленых яркімі вонкавымі прыкметамі прафесіі: апладысменты, кветкі, папулярнасць... Яны, праўда, і адсейваюцца адразу, на першым жа этапе творчага конкурсу, які праводзіцца ў тры туры.

Каб памылак пры прыёме было як мага менш, у прыёмныя камісіі на дапамогу майстрам мастацтваў прыйшлі псіхолагі, якія выкарыстоўваюць навуковыя крытэрыі пры адборы кандыдатаў у студэнты.

І ўсё ж, добра ведаючы аб тым, што сапраўдны талент — найвялікшая рэдкасць, мы не сядзім склаўшы рукі і не чакаем, калі ён ашчасліціць нас сваім з'яўленнем, але і самі шукаем таленты. У прыватнасці, ствараем выязныя прыёмныя камісіі (у іх склад уваходзяць лепшыя выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў), якія раз'язджаюць па краіне ў пошуках таленавітай моладзі. Дапамагаюць нам і дзіцячыя музычныя і мастацкія школы, сярэднія спецыяльныя вучылішчы, лепшыя выпускнікі якіх папаўняюць вышэйшыя навучальныя ўстановы мастацтваў.

— Але ж добра вядома, што, нягледзячы на строгасць адбору, не ўсе ў будучыні становяцца яркімі зоркамі на небасхіле мастацтва. Іншымі словамі, праблем[illegible]касці, калі гэта слова можна ўжы[illegible] у дачыненні да такіх далікатных прафесій, стаіць сёння і перад вышэйшай школай мастацтваў.

— Вядома. Сёння толькі колькасць ні ў вытворчай, ні ў духоўнай сферы нікога ўжо не задавальняе. Калі, скажам, год дваццаць таму назад мы проста фізічна не маглі па-сапраўднаму займацца якасцю — трэба было ў цэлым забяспечыць спецыялістамі драматычныя і музычныя тэатры, філармоніі, кінастудыі многіх рэспублік і абласцей, то сёння, калі «галіна культуры» кадрамі насычана, можна і неабходна заняцца праблемай павышэння ўзроўню падрыхтоўкі ў вышэйшай школе мастацтваў. З гэтым звязана і тое, што ў бліжэйшы час мы практычна не збіраемся адкрываць новыя інстытуты, а будзем удасканальваць тое, што ёсць.

Больш таго, вырашана, у прыватнасці, на нейкі тэрмін закрыць некаторыя аддзяленні і факультэты ў некаторых інстытутах мастацтваў. Ну, напрыклад, рэжысёрскае аддзяленне, якое маецца ў многіх тэатральных інстытутах. Няма неабходнасці ў такой колькасці рэжысёраў, ды, дарэчы, іх і не можа быць столькі: людзі з падобным прызваннем — з'ява выключная.

Узамен такіх закрытых факультэтаў будуць адкрывацца новыя, дзе рыхтуюць спецыялістаў, у якіх сёння маюць патрэбу ўстановы культуры. Вось напрыклад, у школе-студыі МХАТ (вышэйшае тэатральнае вучылішча пры Маскоўскім Мастацкім тэатры) закрыты рэжысёрскі факультэт, а адкрыта аддзяленне мастакоўпастаноўшчыкаў. Пры маскоўскім Тэатры звяроў імя Дурава адкрываецца аддзяленне дрэсіроўшчыкаў — раней гэта прафесія перадавалася толькі ў спадчыну.

Вышэйшая школа мастацтваў будзе сёння ўсё больш пераходзіць на мэтавыя формы падрыхтоўкі, гэта значыць цэлыя выпускі для тэатраў і канцэртных арганізацый. І раней рабіліся такія спробы, і многія з іх аказаліся ўдалымі. Найбольш яркі прыклад — выпуск студыі МХАТ, з якога нарадзіўся папулярны сёння тэатр «Современник». У будучым годзе ў школе-студыі МХАТ мяркуецца правесці набор адразу цэл[illegible]га тэатра: акцёра, рэжысёра, маст[illegible] драматурга...

— Сёння ў Савецкай краіне многія мільёны людзей — дзяцей і дарослых — займаюцца ў калектывах мастацкай самадзейнасці. Дзе рыхтуюць спецыялістаў для работы ў народных тэатрах і ансамблях, аматарскіх аркестрах і студыях выяўленчага мастацтва?

— Перш за ўсё — гэта інстытуты культуры, якія выпускаюць спецыялістаў для культурна-масавай работы: кіраўнікоў самадзейных калектываў самых розных жанраў і рэжысёраў масавых святаў, дырэктароў Палацаў культуры і бібліятэкараў...

Падобныя факультэты адкрыты і ў інстытутах мастацтваў. Інстытут мастацтваў — гэта новы эксперыментальны сінтэтычны інстытут, своеасаблівасць якога ў тым, што тут пад адным дахам аб'яднаны адразу нібыта некалькі розных інстытутаў, кожны з якіх прадстаўлены адпаведным факультэтам — тэатральным, харэаграфічным, музычным і г. д. — плюс аддзяленне культасветработы.

— У колькі абыходзіцца дзяржаве мастацкая адукацыя?

— Без сумнення, гэта самае дарагое з усіх відаў навучання. Дзяржаве яно каштуе ў паўтара-два разы даражэй, чым у любой гуманітарнай ці тэхнічнай вышэйшай навучальнай установе. Перш за ўсё таму, што студэнт адразу атрымлівае дзве вышэйшыя — гуманітарную і спецыяльную адукацыі. Акрамя таго, заняткі праводзяцца тут з невялікай групай студэнтаў, а што тычыцца заняткаў па творчых дысцыплінах, то яны ўвогуле праходзяць індывідуальна. У сістэме вышэйшай школы мастацтваў у сярэднім на аднаго педагога прыпадае шэсць студэнтаў, але і гэта нам здаецца многа. Трэба яшчэ адзначыць адну акалічнасць: сярод выкладчыкаў творчых інстытутаў — і лаўрэаты міжнародных конкурсаў, вядомыя кампазітары і рэжысёры, гэта значыць высокааплатная катэгорыя. У сярэднім у год на аднаго студэнта творчай вышэйшай навучальнай установы дзяржава траціць больш дзвюх тысяч рублёў. Напомню, што для саміх студэнтаў навучанне ў інстытуце мастацтваў, як, зрэшты, і ў любым іншым, бясплатнае.

**Інтэрв'ю ўзяла Наталля КУРАВА.**





**Першыя вершы Яўгеніі Янішчыц былі надрукаваны, калі ёй споўнілася ўсяго шаснаццаць год. Дзяўчынка з сялянскай сям'і на Піншчыне даволі рана адчула цікавасць і жаданне да самастойных літаратурных спроб. І таму, калі праз два гады яна паехала са сваёй вёскі Рудка ў Мінск, гэта было натуральным і заканамерным. Тут, у сталіцы, яе прынялі на вучобу на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Пасля атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі Яўгенія Янішчыц працавала загадчыцай бібліятэкі ў Мінску, потым літаратурным кансультантам у рэспубліканскай «Сельской газете». Зараз яна — загадчыца аддзела паэзіі ў беларускім маладзёжным часопісе «Маладосць».**

**Сёння вядомая паэтэса, якая мае багаты творчы і жыццёвы вопыт, працуе з маладымі, пачынаючымі літаратарамі. Ад яе слова многае залежыць у іх творчым лёсе. І Яўгенія Іосіфаўна з разуменнем, павагай і добразычлівасцю ставіцца да сваіх маладых калег, дапамагае ім і як рэдактар, і як таварыш па пяру.**

**Імя Яўгеніі Янішчыц, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, мы адносім да найбольш папулярных і цікавых у сучаснай беларускай паэзіі. Выйшла пяць зборнікаў вершаў паэтэсы, раз за разам на старонках часопісаў з'яўляюцца новыя творы. Плён і поспех спадарожнічаюць ёй у працы.**

**Г. ПАЛУЯНАВА.**





**НА ЗДЫМКАХ: у час падрыхтоўкі чарговага нумара часопіса «Маладосць». У цэнтры — Яўгенія ЯНІШЧЫЦ; сустрэліся калегі: беларускія пісьменнікі В. ЗУЁНАК, Я. ЯНІШЧЫЦ, А. КАРПЮК, В. ВІТКА; з сынам Андрэем; кнігі вершаў Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ.**

